## У.Кулакоў:

# «НІХТО ЗА НАС НАШЫХ ПРАБЛЕМ НЕ ВЫРАШЫЦЬ»

Насельніцтва павінна ведаць, што яго чакае ў 1994 годзе і калі наступіць паляпшэнне жыцця. Асобныя дэпутаты ва ўсіх бедах, цяперашнім стане эканомікі бачаць віну толькі ўрада. Так, урад, гаварыў У.Кулакоў на сесіі Вярхоўнага Савета, павінен несці сваю долю адказнасці. Але гэту адказнасць абавязаны раздзяліць і мы, народныя дэпутаты Вярхоўнага Савета, камісіі і іншыя структуры дзяржаўнай улады.

Але цяпер, напэўна, не гэта галоўнае: хто вінаваты больш, хто менш. Трэба разам знаходзіць рашэнне, як выйсці з гэтага становішча.

На маю думку, хуткага і лёгкага выйсця з сённяшняга крызісу не будзе. А ў многіх жа занадта глыбокая надзея, што нехта іншы вырашыць нашы пытанні. Але ў іншых краін ёсць і свае ўласныя праблемы. Калі мы хочам быць дастойнымі членамі сусветнага супольніцтва, жадаем даць свайму народу забяспечанае жыццё, нам трэба самім шукаць выйсце, як справіцца са сваімі прабемамі. І такое рашэнне Вярхоўным Саветам сумесна з урадам павінна быць знойдзена.

Прамоўца выказаў падтрымку дэкларацыі аб уступленні рэспублікі ў эканамічны саюз, у рублёвую зону новага тыпу. Толькі хацелася б верыць, што ўсё гэта не застанецца на паперы, як здарылася з многімі добрымі рашэннямі, што былі падпісаны краінамі СНД.

Канечне, уступленне Беларусі ў эканамічны саюз, у першую чаргу з Расіяй, дазволіць вырашаць многія пытанні, такія, напрыклад, як свабоднае перамяшчэнне капіталу і тавараў, доступ да сыравіны, энергетычных рэсурсаў іншых краін Садружнасці, зніме мытныя бар'еры. Аднак не ўсё тут будзе залежаць ад Беларусі. Да таго ж нам не варта чакаць хуткіх канкрэтных вынікаў. Бо патрабуецца прыняцце шэрагу важнейшых дакументаў і законаў і не толькі намі.

Патрэбна зразумець і тое, што прадаваць нам сыравіну і рэсурсы па нізкіх цэнах ніхто не стане. Трэба зарабіць сродкі для іх закупкі. У гэтым напрамку ў першую чаргу павінна працаваць наша эканоміка.

Аб'ектыўна склалася так, што наша рэспубліка аказалася свайго роду зборачным цэхам, які поўнасцю залежыць ад паставак сыравіны і паліва, у першую чаргу з Расіі. У многіх выпадках вырабляемая намі прадукцыя патрабуе шмат энергіі і сыравіны, да таго ж яна не заўсёды сёння канкурэнтаздольная і па якасці, і па кошту.

Прамоўца прывёў такі прыклад. Шэсць буйных прадпрыемстваў вобласці — "Нафтан", "Палімір", "Шклоўвалакно", завод БВК, "Даламіт", Аршанская газакампрэсарная станцыя — пры рабоце на поўную праектную магутнасць патрабуюць штодзённа 400 — 410 мегават, або 40 працэнтаў да спажываемай вобласцю электраэнергіі. Праўда, цяпер у сувязі з недахопам і часткова — са спыненнем заводаў спажыванне энергіі гэтымі прадпрыемствамі скарацілася. Але гэта не вырашэнне пытання, калі спыняюцца заводы. Што трэба, каб выйсці з цяперашняга стану?

Правесці глыбокую структурную перабудову нашай народнай гаспадаркі. Гэта пытанне не новае. Яно ўжо тры гады назад узнімалася многімі дэпутатамі. На жаль, за гэты час зроблена вельмі мала. Так, гэта работа не на адзін год, але яе трэба пачынаць. Толькі ў Віцебскай вобласці такіх прадпрыемстваў каля дваццаці. Усе яны былога саюзнага і рэспубліканскага падпарадкавання. Іх трэба або тэхналагічна мадэрнізаваць, калі гэта прадукцыя патрэбна рэспубліцы ці для экспарту, або перапрафіліраваць на выпуск іншай прадукцыі, якая карыстаецца попытам, у першую чаргу навукаваёмістую.

Для таго, каб правесці хутчэй гэту работу і атрымаць аддачу, трэба прыцягнуць расійскі і іншы замежны капітал, ствараючы акцыянерныя прадпрыемствы. Безумоўна, у правядзенні такой маштабнай работы прадпрыемствам патрэбна і дзяржаўная падтрымка: падатковая, крэдытная, арганізацыйная, ільготы для замежных інвестараў.

Дзяржаўная падтрымка павінна быць аказана і галінам, якія працуюць на экспарт, а таксама тым, што выкарыстоўваюць мясцовую сыравіну. Прырода не надзяліла нас багатымі рэсурсамі, як іншыя краіны. У нас няма золата і алмазаў, каляровых металаў, газу, мала нафты. Але тое, што ў нас ёсць, мы павінны выкарыстаць рацыянальна. Маюцца на ўвазе і лясныя багацці.

Да гэтага часу вобласць працягвае экспартаваць па ўказанню галіновага міністэрства лес-кругляк, неапрацаваны, па нізкай цане. Канечне, гэта лягчэй і прасцей. А з другога боку, наша дрэваапрацоўчая прамысловасць аснашчана ўстарэлым абсталяваннем, вялікія страты сыравіны пры нарыхтоўцы і апрацоўцы. Няўжо немагчыма паправіць становішча з дапамогай нашых станкабудаўнічых прадпрыемстваў і навукі і на гэтай аснове рэзка павялічыць выпуск гатовых вырабаў, у тым ліку мэблі, і пастаўляць іх у іншыя краіны СНД.

Навісла сур'ёзная пагроза над сапраўды беларускай галіной — ільнаводствам. А яно ж хоць часткова можа забяспечыць тэкстыльную прамысловасць сыравінай. Устаноўленыя закупачныя цэны не пакрываюць затрат гаспадарак і льнозаводаў на атрымліваемую прадукцыю. Калі не прыняць тэрміновых мер, у будучым годзе ніхто лён сеяць не будзе. Закрыюцца дзесяткі льнозаводаў, а ў вобласці іх 20. Адрадзіць гэту галіну потым будзе вельмі цяжка. Дарэчы, лён можна пастаўляць і на экспарт, у тым ліку ў Расію.

У нас добра развітая сельская гаспадарка. Гэта вялікае шчасце для рэспублікі. Аграрны сектар ствараўся дзесяткі год і не па сваёй віне аказаўся цяпер у цяжкім становішчы, мае патрэбу ў падтрымцы. У іншых дзяржавах ёсць праграмы падтрымкі сельскай гаспадаркі і галін, якія працуюць на мясцовай сыравіне. Робіцца гэта з тым, каб скараціць сваю залежнасць ад імпарту і даць работу ўласнаму насельніцтву.

Рэспубліка губляе рынкі збыту па продажу ў краіны СНД сельгаспрадукцыі. Ва ўсе часы цана была выгадная, і мы мелі тут салідныя пазіцыі. Згубіць рынак збыту лёгка, вярнуцца на яго будзе вельмі складана.

Патрэбна пастуова змяніць і структуру паліўнага балансу. Цяпер у яго аснове ляжыць мазут і іншыя нафтапрадукты або каменны вугаль, цэны на якія высокія.

Кошт мазуту даходзіць цяпер да 300 тысяч, а вугалю — да 150 — 180 тысяч рублёў за тону. Да таго ж не гарантаваны пастаўкі. Трэба павялічваць спажыванне газу і мясцовых відаў паліва, што значна дзешавей.

Для стабілізацыі эканомікі патрэбна ў першаю чаргу стабілізацыя фінансавай і крэдытна-грашовай сістэмы. І гэта варта зрабіць да практычнага ўваходжання ў рублёвую зону. Трэба ўстанавіць фактычны, а не біржавы курс нашых разліковых білетаў, у першую чаргу да расійскага рубля. Абясцэньванне ўласнай валюты, яе заніжаны курс, можа, і стымулюе часткова экспарт у Расію, але эканоміка і насельніцтва нясуць ад гэтага дадатковыя цяжкасці. Нацыянальны банк у любой дзяржаве лічыць сваім абавязкам прымаць усе меры па абароне ўласнай валюты, таму што разумее: падзенне яе курсу можа выклікаць эканамічную катастрофу.

Патрабуе сур'ёзнай карэкціроўкі падатковая палітыка. Цяперашні ўзровень падаткаў цяжкім грузам кладзецца на прадпрыемствы і насельніцтва. Так, за 10 месяцаў прадпрыемствамі і насельніцтвам вобласці заплачана рэспубліканскаму і мясцоваму бюджэтам амаль 270 мільярдаў рублёў падаткаў. Гэта набліжаецца да сумы даходаў насельніцтва за названы час. Значнае скарачэнне падаткаў дазволіла б стымуляваць вытворчасць, зрабіць нашу прадукцыю канкурэнтаздольнай на рынках іншых краін, а зніжэнне падаткаў на дабаўлены кошт, хоць бы на тыя тавары, якія ўваходзяць у "спажывецкі кошык", дапамагло б стабілізаваць цэны на гэты тавар.

Дзяржава павінна праводзіць і больш гібкую крэдытную палітыку. У.Кулакоў адзначыў, што ён не з'яўляецца прыхільнікам бескантрольнага выдзялення крэдытаў за кошт эмісій і на гэтай аснове раскручвання новых віткоў інфляцыі. Аднак ёсць цэлыя галіны з сезоннай вытворчасцю і сезоннымі нарыхтоўкамі сыравіны, дзе абаротных сродкаў не хапае. Не таму, што там дрэнна працуюць, а таму, што такая спецыфіка работы. Гэта не толькі калгасы і саўгасы, але і мукамольная, камбікормавая, харчовая, ільноперапрацоўчая прамысловасці. Яны маюць патрэбу ў крэдытах, прычым у льготных, пад 10 — 15 працэнтаў гадавых. Інакш яны вымушаны вялікія працэнты закладваць у цану гатовай прадукцыі, якую аплачваюць не прадпрыемствы, а насельніцтва праз цану хлеба, мяса, яек, бульбы, агародніны.

А як абысціся без крэдытаў прадпрыемствам, якія павінны пачаць тэхналагічную рэканструкцыю, або калгасам і саўгасам для падрыхтоўкі да будучага ўраджаю?

Насельніцтва хвалюе нястрымны рост цэн і падзенне жыццёвага ўзроўню. Мы часта спасылаемся на свабодныя цэны, над якімі ўжо і органы ўлады бяссільныя, бо мы ўвайшлі ў рыначную эканоміку. Але рыначная эканоміка — гэта не толькі свабодныя цэны, гэта ў першую чаргу канкурэнцыя вытворцаў. Яна, гэта канкурэнцыя, стварае свабодныя цэны. Пры нашай жа манапольнай вытворчасці ніякай канкурэнцыі няма.

Пакуль круціцца толькі адна шасцярОнка рыначнай эканомікі — нястрымнае нарошчванне цэн. Таму патрэбна рухаць рэформы, паскараць працэсы прыватызацыі, ствараць магчымасць для канкурэнцыі вытворцаў, аказваць падтрымку малым прадпрыемствам, укараняць у комплексе механізм рыначнай эканомікі. А пакуль на пераходны перыяд трэба ўстанавіць з боку дзяржавы кантроль за цэнамі хоць бы на тавары, што ўваходзяць у "спажывецкі кошык", і забяспечыць іх дэклараванне. Гэта і будзе дзейснай мерай сацыяльнай абароны насельніцтва. А спроба зрабіць гэта толькі за кошт павышэння мінімальнага ўзроўню зарплаты не заўсёды дасягае мэты, бо многія прадпрыемствы, калгасы і саўгасы, бюджэтныя арганізацыі не ў стане яе выплачваць з-за адсутнасці сродкаў.

У заключэнне У.Кулакоў выказаў думку, што ўрад, зыходзячы з абмеркавання, павінен вызначыць першачарговыя меры па стабілізацыі эканомікі, закласці іх у праект бюджэту і прагнозу развіцця эканомікі на будучы год, а таксама прадставіць Вярхоўнаму Савету праграму рэфарміравання нашай эканомікі хоць бы на бліжэйшыя 3 — 5 год.

**Дыктафонны запіс падрыхтаваў да друку А.ВІХРОЎ.**



Сувязь білетнага дыспетчара з касамі па продажу білетаў, табло наяўнасці месцаў, указальнікі адпраўлення паяздоў, аўтаматычныя камеры захоўвання і многае іншае абсталяванне на станцыі Віцебск абслугоўвае брыгада электрамеханікаў з пяці чалавек. Усе яны маюць сярэднюю і вышэйшую спецыяльную адукацыю, валодаюць дастатковым вопытам і ведамі для таго, каб паспяхова ўтрымліваць сваю складаную гаспадарку ў рабочым стане, а ў выпадку нейкай паломкі аператыўна ліквідаваць няспраўнасць.

На здымку: электрамеханікі Мікалай Несцярэнка, Міхаіл Плесуноў (стаяць), Аляксандр Краснікаў і Сяргей Маскалькоў.

Фота Г. ЖУКАВА.

# А ўся зіма яшчэ наперадзе

Яшчэ не наступіла зіма, а мы ўжо у літаральным сэнсе слова на ўласнай скуры пачалі адчуваць, што сёлета ў цёплых кватэрах наўрад ці будзем зімаваць. Галоўная прычына — дэфіцыт цяпла. І з гэтай нагоды ў нашых гарадах і пасёлках пачынаюць прымацца непапулярныя меры.

Вось што, напрыклад, паведамілі з Талачына. Тут знізілася падача цяпла ў жылыя дамы, вытворчыя і адміністрацыйныя будынкі райцэнтра ў выніку скарачэння лімітаў на паліва і яго падаражання. На мінімальным паліўным рэжыме працуе сёння гарадская кацельня.

Выканком раённага Савета народных дэпутатаў прыняў рашэнне аб спыненні падачы гарачай вады многім спажыўцам. Яе на сённяшні дзень атрымліваюць толькі раённая бальніца, аптэка, школы і дзяцячыя садзікі. Устаноўлены цвёрды рэжым работы пральні і гарадской лазні. Прадугледжана пэўная адміністрацыйная адказнасць у сувязі з гэтым.

Падобнае становішча і ў многіх іншых населеных пунктах нашай вобласці. Так што, як бачым, сёлета нам усё ж давядзецца як ніколі раней дбайна папрацаваць над уцяпленнем сваіх кватэр, службовых і вытворчых памяшканняў, падвалаў і г.д. Безумоўна, гэта тычыцца тых, хто гэта яшчэ не зрабіў. Бо ўся зіма наперадзе.

А.ГАРАЎЦОЎ.

◆ *ПРЭСА*

# Бярэцца вопыт у саюзнікі

Прыемнае ўражанне робіць бешанковіцкая райгазета "Зара" па зместу і паліграфічнаму выкананню. Журналісты бяруць на ўзбраенне вопыт калег, абагачаюць яго ўласнымі знаходкамі і адкрыццямі. З устаноўкай рабіць добрае выданне працяглы час працуюць у рэдакцыі Тамара Семчанка і Леанід Акулёнак, Рыгор Галкоўскі і Анатоль Крачкоўскі. Адно родніць гэтых увогуле непадобных людзей — яны хвараюць абранай раз і назаўсёды справай, гатовы "дзеля некалькіх радкоў у газеце" выехаць, дайсці, дазваніцца ў любы куток раёна, даць чытачу свежую і праўдзівую інфармацыю.

Вопыт "Зары", якая адзначыла летась сваё 60-годдзе, абагульнены калегіяй абласнога ўпраўлення інфармацыі.

М.НЕСЦЕРАЎ.

# І зноў нас вучаць немцы...

Днямі ў Полацк вярнуліся 12 стажораў, якія паўгода пражылі ў горадзе-пабраціме Фрыдрыхсхафене і практыкаваліся ў розных фірмах па спецыяльнасцях, якія кормяць іх на роднай зямлі. Напрыклад, паркетчык А.С.Савіцкі быў ў фірме пана Руке, якая складаецца з гаспадара, яго жонкі і аднаго рабочага. А загадчыца рэанімацыйнага аддзялення гарадской бальніцы С.П.Самохіна практыкавалася ў гарадской бальніцы Фрыдрыхсхафена.

Ехалі да нямецкіх сяброў на стажыроўку толькі тыя, хто хацеў і больш-менш валодаў нямецкай мовай. І ўсё роўна на авалоданне мовай, каб вольна размаўляць хаця б у межах спецыяльнасці, пайшло шмат часу, а астатні перыяд нашы стажоры выкарыстоўвалі на шліфаванне прафесійнага майстэрства, на засваенне прыёмаў працы, якімі карыстаюцца ў Германіі.

Полацк накіроўвае сваіх людзей у Германію, каб не толькі павысіць іх кваліфікацыю, але і падрыхтаваць іх да работы ў рыначных умовах, а то і заахвоціць пачаць уласную справу. Германія таксама зацікаўлена ў перападрыхтоўцы нашых кадраў. Па-першае, у час стажыроўкі яны выступаюць як танная рабочая сіла. Плаціць стажорам 500 марак у месяц. Па-другое, праз іх з цягам часу пачне ствараца ўмова для пашырэння нямецкага прадпрымальніцтва на нашай зямлі. Па-трэцяе, гуманітарнай дапамогай не вырашыць нават немцам усіх нашых праблем, а падрыхтаваныя там нашы кадры змогуць іх рашыць хутчэй.

Вярнуліся палачане са стажыроўкі не з пустымі рукамі. Нават са сціплай стыпендыі змаглі сабраць марак, каб набыць такія-сякія інструменты і абсталяванне, неабходнае для высокапрадукцыйнай і якаснай працы. Прывёз неабходны рыштунак паркетчык А.С.Савіцкі. Што-колечы набыў сам, а дзве паркетна-шліфавальныя машынкі падараваў яму пан Руке. Сталяр С.М.Максіменка таксама набыў добры электраінструмент для сваёй справы, фірма падаравала яму тое-сёе і аўтамабіль за добрую старанную працу. Сяргей Мікалаевіч просіць спрыяння гарадскіх улад, каб узяць у арэнду памяшканне плошчай не менш як 100 квадратных метраў для адкрыцця сваёй справы па рамонту мэблі і вырабу дзвярных каробак і аконных праёмаў па нямецкаму ўзору.

А стажыроўка палачан у Фрыдрыхсхафене не заканчваецца. Будзе набірацца яшчэ чарговая група ў першым квартале 1994 года. Не, гэта будзе не наменклатура. Кожны, хто захоча паехаць, незалежна ад прафесіі, павінен добра ведаць нямецкую мову.

Ю.ПЛІСКІ.

